

Газета заснавана ў 1938 годзе.
Выходзіць з 1997 года.

# Газета Слонімская

№ 3 (32). Слонім. 16 студзеня — 22 студзеня 1998г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

## ВИЗИТ ВНОВЬ ПЕРЕНОСИТСЯ

**В очередной раз перенесен визит президента А.Лукашенко на Гродненщину, который планировался сначала на декабрь, а потом на 16-17 января.**

В эти дни должно было проходить республиканское совещание по итогам работы агропромышленного комплекса, в котором предполагалось участие президента.

На этот раз принято решение провести совещание, в котором примут участие около четырехсот человек, 24 февраля. Оно будет проводиться в Гродно, на базе хозяйств Берестовицкого и Гродненского районов.

**БелаПАН.**

## СЛОНИМ ВЫШЕ ОБЛАСТИ

**10 января руководители Слонимской исполнительной власти держали отчет за 1997 год перед комиссией, которая приехала из Гродно.**

Мэр Лактюшин и его заместители доложили, что бюджет за прошедший год выполнен на 100,3%. Представители из области отметили, что показатели г.Слонима выше областных.

**Алесь Тишкевич**

## ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА

**У Доме Афіцэраў адбылася раздача лекаў, атрыманых Слонімскім аддзяленнем Саюзу палякаў ад французскага і нямецкага аддзяленняў Чырвонага Крыжа.**

Пасрэднікам у дастаўцы лекаў быў Данат Паважыньскі з Вроцлава, старшыня мясцовага аддзела таварыства аматараў зямлі Слонімскай і Навагрудскай. Гэта ўжо чацвёртая пасылка з лекамі для слонімцаў.

## З НАГОДЫ СВЯТА

**У раённым доме культуры адбыўся ранішнік, прысвечаны святу Раства Хрыстова.**

Перад прысутнымі выступіў хор Мінскай духоўнай семінарыі, а таксама дзеці з нядзельнай школы Святагеоргіеўскай царквы з вёскі Гальшаны і паслушнік Жыровіцкага манастыра Алег (паэт Зьніч). З Божым словам да слонімцаў звярнуўся япіскап Лідскі і Навагрудскі Гурый.

**Сяргей ЁРШ**

## Приговор приведен в исполнение

**В прошлом году с января по ноябрь к исключительной мере наказания судами республики было приговорено 38 преступников.**

По сообщению Прокуратуры Беларуси, за этот же период приговор был приведен в исполнение в отношении 27 лиц, осужденных к смертной казни в 1996 и 1997 годах.

**БелаПАН.**

## Для агароднікаў

Днямі ў Слонім завезена першая партыя насення гародніных культур на суму 1,3 мільярда рублёў. Нават ёсць элітныя гатункі з Германіі і Галандыі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Інспекцыя папярэджвае

**Ноччу 12 студзеня ў пяціпавярховым доме па вуліцы Хлюпіна загарэліся падвалы.**

На месца здарэння прыехалі пяць пажарных машын. Узгаранне было хутка ліквідавана, а жыхары кватэр трэцяга пад'езда эвакуіраваны. Ад пажару ніхто не пацярпеў, а пасля ачышчэння пад'езда ад дыму, людзі вярнуліся ў свае кватэры.

Высветлілася, што прычынай пажару сталі нядбайныя адносіны жыхароў дома да элементарных патрабаванняў пажарнай бяспекі. У сувязі з гэтым, інспекцыя дзяржпажарнагляду просіць грамадзянаў навесці парадак у сваіх падсобных памяшканнях і падвалах. А ў бліжэйшы час інспекцыя, сумесна з работнікамі ЖЭС, будзе штотыднёва праводзіць рэйды з мэтай праверкі стану падвалаў у дамах слонімцаў. Пры выяўленні супрацьпажарных парушэнняў будуць накладацца адміністрацыйныя санкцыі.

**Сяргей ГАНЧАРЫК**

## Опросили...

**Сотрудники института социально-политических исследований при администрации президента Беларуси провели республиканский опрос.**

Респондентам, в частности, предлагалось определить уровень своего достатка. Более половины опрошенных (52 процента) считают себя людьми «бедными». 28 процентов оценивают свой достаток как «средний»; 13 процентов опрошенных назвали себя нищими. И лишь один человек из ста (1 процент) назвал себя богатым.

**БелаПАН.**

## Чытайце ў нумары:



## СРОКИ ИЗМЕНЕНЫ

Министерство транспорта и коммуникаций, Государственный налоговый комитет и Министерство промышленности Беларуси приняли совместное решение отсрочить обязательное оборудование автомобилей электронным таксометром для желающих оказывать услуги такси.

Напомним, что, согласно новым Правилам перевозок пассажиров в автомобилях такси, утвержденным еще в июле 1997 года, последние до 1 января нынешнего года обязательно должны были оснащаться фонарями-плафонами и электронными таксометрами.

Как сообщил начальник управления автомобильного транспорта Министерства транспорта и коммуникаций Валерий Миленький, отсрочили обязательную установку электронного таксометра до 1 апреля, а для тех, у кого есть механический таксометр — до 1 июля. Перенос сроков связан с тем, что электронные таксометры отечественного производства в ходе испытаний несколько раз давали серьезные сбои, и их образцы направлялись на доработку. Напомним также, что, согласно новым правилам, все, кто желает работать частным таксистом, обязаны пройти специальную профессиональную подготовку и получить соответствующее свидетельство. Известно также, что такой вид деятельности, как оказание услуг по перевозке пассажиров в такси, лицензируется. Как подчеркнули в Министерстве транспорта и коммуникаций, в случае невыполнения предъявляемых требований, к таксистам-нарушителям (как к частникам, так и к работникам таксопарков) будут применены штрафные санкции и лишение лицензий.

**БелаПАН.**

# Як плаціць падаткі?

**З 1 студзеня 1998 года падаходны падатак з даходаў фізічных асобаў будзе налічвацца з улікам сукупнага гадавога даходу. У сувязі з гэтым грамадзяне павінны да 15 лютага прадставіць у падатковую інспекцыю дэкларацыі аб сваіх даходах.**

Наш карэспандэнт сустрэўся з намеснікам начальніка інспекцыі Дзяржаўнага падаткавага камітэта па г. Слоніме і Слонімскім раёне **Вікенціем Семянчуком** і папрасіў яго адказаць на некаторыя пытанні нашых чытачоў:

***—Вікенцій Іванавіч, якая сума заробку лічыцца даходам: тая, якую работнік атрымаў на рукі, ці тая, што налічана ў бухгалтэрыі?***

—Даходам лічыцца агульная сума заработнай платы, налічаная бухгалтэрыяй.

***—Падаткавая інспекцыя будзе верыць тым лічбам, якія грамадзянін запіша ў дэкларацыю, ці патрэбна прыкласці да дэкларацыі нейкі дакумент?***

—Да дэкларацыі павінна быць прыкладзена даведка бухгалтэрыі ўстановы, ці арганізацыі ўстаноўленай формы, узор якой змешчаны ў «Нацыянальнай эканамічнай газеце» №37 за 1997 год.

***—Бацька падараваў свайму сыну 1200 дойчмарак, якія ён атрымаў за знаходжанне ў час вайны на прымусовых работах у Германіі. Ці павінен сын уносіць у дэкларацыю гэтую суму?***

—Даходы, атрыманыя ў выніку дарэння ад фізічных асоб, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама ад блізкіх родных з-за мяжы, падаткам не абкладаюцца і дэкларыраваць іх не трэба. Пры гэтым да блізкіх родных адносяцца бацькі, дзеці, усынавіцелі, усыноўленыя, родныя браты, сёстры, дзед, бабка, унукі, а таксама муж і жонка.

***—Работнік на месцы асноўнай працы атрымлівае невысокую зарплату і працуе па сумяшчэнню на 0,5 стаўкі ў іншай арганізацыі. Ці павінен ён пісаць дэкларацыю?***

—Калі сукупны даход не перавышае 19.400 тыс. рублёў, дэкларацыя не падаецца.

***—Пенсіянер атрымлівае пенсію 2 мільёны рублёў і, акрамя гэтага, працуе на прадпрыемстве. Ці павінен ён запаўняць дэкларацыю?***

—Пенсіі падаходным падаткам не абкладаюцца і ў дэкларацыю не ўносяцца. Таму, калі пенсіянер на прадпрыемстве атрымаў заработную плату, на працягу года сума якой не перавышае 19.400 тыс. рублёў, дэкларацыю ён не падае.

***—Грамадзянін усё жыццё, як кажуць, збіраў грошы на пакупку аўтамабіля і сёлета набыў яго за 80 мільёнаў рублёў. Што павінен ён пісаць у дэкларацыю?***

—Здзелка не падлягае дэклараванню, калі сума не перавышае памеру 500 мінімальных заработных плат.

***—Чалавек працуе на прадпрыемстве і яго заробак за год склаў 18 мільёнаў рублёў. У бягучым годзе ён напісаў кнігу, і выдавецтва выплаціла яму ганарар у суме 12 мільёнаў рублёў? Ці павінен ён пісаць дэкларацыю?***

—Так. Павінен, бо сукупны гадавы даход склаў больш як 19.400 тыс. рублёў.

***—Заробак калгаснага трактарыста за год склаў 24 мільёны рублёў. Акрамя гэтага ён на працягу года прадаў дзяржаве з уласнага падворка мяса, малако. Што павінен ён пісаць у дэкларацыю?***

—Даходы, атрыманыя з прыватнай падсобнай гаспадаркі не дэкларуюцца. Калі чалавек акрамя асноўнага месца працы не меў іншых даходаў, то дэкларацыю яму падаваць не трэба.

***—Юнак атрымаў у спадчыну ад сваёй бабулі дом, аўтамашыну і дачу. Прадаў усю маёмасць за 290 мільёнаў рублёў. Ці павінен ён уносіць у дэкларацыю гэтую суму?***

—Не дэкларуюцца даходы, атрыманыя ад аднаразовага на працягу пяці гадоў продажу дамоў, кватэр і іншай нерухомасці, і аднаразовага на працягу каляндарнага года продажу аўтамабіляў, прычапных ці іншых транспартных сродкаў. У дадзеным выпадку чалавек зрабіў дзве аперацыі з нерухомасцю: прадаў дом і дачу. Такім чынам, ён павінен прадэкларыраваць даход, атрыманы ў выніку другой аперацыі па продажы нерухомасці.

***—Інвалід жадае займацца прыватнай прадпрымальніцкай дзейнасцю, звязанай з вырабам мэблі. Ці існуюць льготы па падаткаабкладанню для інвалідаў?***

—Інваліды I і II груп пры налічэнні падаходнага падатку з заработнай платы і даходу ад прадпрымальніцкай дзейнасці маюць льготу ў памеры 10 мінімальных заработных плат у месяц (120 мінімальных заработных плат у год).

***—Грамадзяніну патрэбна плаціць падатак у памеры 16 мільёнаў рублёў, а ён страціў работу ў выніку скарачэння штатаў. Як яму быць? Плаціць падатак няма чым...***

—Ён не вызваляецца ад уплаты падатку. Тэрмін аплаты — не пазней 15 сакавіка бягучага года. Пры несвоечасовай аплаце налічваецца фінансавая санкцыя ў памеры 10% ад сумы плацяжу і пеня за кожны дзень пратэрмінавання. А калі грамадзянін не заплаціць падатак і пасля папярэджання, то пытанне аб спагнанні запазычанасці вырашаецца ў судовым парадку.

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

# ПОШТА

## ЗДРАВСТВУЙ, РЕДАКЦИЯ!

Пишет вам **Малаш Наталья** из Слонима. Мне 15 лет. Хочу сказать честно: «Газета Слонімская» — это моя любимая газета. В этой газете всегда все самые свежие новости. Я горжусь, что у нас в Слониме есть такая газета, действительно для народа!

Желаю, чтобы ваша газета пользовалась еще большим успехом, чем сейчас.

***

Газету читаю с первого номера. Очень люблю рубрику «Спорт», где из публикаций я узнаю о победителях в различных видах спорта, об играх «Коммунальника».

Сейчас хочу рассказать об одном случае, который недавно произошел со мной. Пошел я как-то раз в магазин. Когда начал рассчитываться, то у продавца не оказалось сдачи и она потребовала 200 рублей, которых у меня не оказалось. Об этом ей я так и сказал. На что она мне ответила: «Это не мои проблемы». Я сказал, что живу далеко и не смогу прямо сейчас принести 200 рублей. Эти деньги ей я так и не принес. Вот и хочу у Вас спросить: «Имеет ли продавец право так разговаривать с покупателями и правильно ли я поступил, что не принес 200 рублей?»

***P.S.** Спасибо Вам за то, что Вы есть, за то, что есть с кем поделиться, рассказать интересное, задать вопрос.*

**Олег**

***

С большой тревогой и болью прочитал рассказ М.А. Дейко о ее горе.

То, что произошло с ее сыном — это не случайность. Хотя все списывается на пьянку умершего, однако я, как и многие слонимчане, ни на грамм не сомневаюсь, кто является виновником смерти молодого человека.

В старое доброе время не многие молодые люди шли служить в милицию, т.к. работа эта была тяжелой, да и не очень престижной. Сейчас же все наоборот. Многие папаши, из числа влиятельных, пристраивают своих чад именно в милицию. Ведь это власть над людьми, деньги, льготы, при этом не обязательно быть «шибко вумным».

Неужели администрация города всего этого не замечает или просто не хочет замечать? А может уже просто ничего не может сделать с подвластной ей структурой?

Если это так, пора обращаться к тому, кто в состоянии у нас в стране поставить все на свои места.

**С уважением, СУПРУН Г.В., пенсионер**



Фота Тадэўша Сцянуры

Хочу откликнуться на письмо Михаила Воронца. Я не знаю, что в нем вымышленно, но то, как женщина испугалась за своего сына настолько реально, что я поражаюсь, как у людей не хватает ума и души осознать это.

В Евангелии от Матвея (гл. 10/26) сказано: «...нет ничего сокровенного, что не открылось бы и тайного, что нельзя было бы узнать».

**Лариса**

***

Я очень рад, что у нас появилась «Газета Слонімская». Она — прямо свободная отдушина на нашей Слонимщине. Из газеты узнаю — на какой земле я живу и что меня окружает, хотя прожил уже немало.

Уважая коллектив газеты и желая вам всем успехов и процветания в этом нелегком деле, я осмелюсь дать вам небольшой совет.

В Слониме у многих горожан есть спутниковые антенны, а вот программу для этого телевидения найти у нас довольно проблематично. Вот если бы в «Газеце Слонімскай», наряду с обычной программой публиковали и программу для спутникового телевидения. По-моему, газета от этого только бы выиграла.

Желаю долголетия и всяческих успехов коллективу «ГС».

**С уважением, МЫСЛИВЕЦ В.К.**

***P.S.** Остаюсь постоянным подписчиком «Газеты Слонімскай».*

**От редакции:**

Уважаемый Виктор Константинович!

Мы рассматриваем вопрос о размещении в газете программы спутникового телевидения. Думаем, что скоро он решится.

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя!*

Працяглы час мяне турбуе адно далікатнае пытанне. І вельмі хочацца падзяліцца сваімі думкамі і ўражаннямі на старонках вашай газеты. Размова пойдзе пра тое, чаго не зможа абмінуць ні адна сям'я. Гэта смерць блізкіх нам людзей, нашых бацькоў ці проста знаёмых людзей, якіх напаткала вялікае гора: заўчасна памерла маці, жонка, бабуля, зусім яшчэ маладая жанчына. Памерла нечакана, раптоўна. Болем і горам стогне хата, бо развітваемся ўжо назаўсёды. Болей не ўбачым, не пачуем. А вакол людзі, людзі. Нехта прыйшоў паспачуваць, нехта дапамагчы, а хто так, дзеля цікавасці. І ў гэты цяжкі, балючы момант для блізкіх і родных, яны павінны думаць пра тое, што яшчэ нешта трэба купляць, а потым гатаваць, каб накарміць і напаіць тых людзей, што таўкуцца вакол. На могілкі людзей вязуць два набітыя бітком аўтобусы. Аднак вакол выкапанай магілкі, каля труны, звычайна стаяць усяго некалькі дзесяткаў чалавек. Гэта сваякі і самыя блізкія сябры. Астатнія разышліся да могілак сваіх блізкіх, знаёмых. Дык чаго ж яны ехалі сюды? Для чаго ім наймалі аўтобусы? Хіба не для таго, каб правесці ў апошнюю дарогу канкрэтнага памерлага чалавека? Хіба нельга ў любы другі вольны час прыехаць, каб адведаць сваіх родзічаў? Але пасля цырымоніі пахавання ўсе збіраюцца ў аўтобусы, якія зноў паўнюткія. Усе гэтыя пасажыры збіраюцца за сталамі на вячэры. Іх так многа, што міжволі думаеш: «Няўжо гэта ўсе самыя-самыя блізкія?» Сталы ломяцца ад закускі і гарэлкі. П'юць хто колькі хоча. І міжволі ўзнікае пытанне. Што сталася з людзьмі? Дзе сумленне? Дзе спагада? Чаму сёння за стол ідуць усе, каму захочацца? Павінны ж быць нейкія межы, нешта святое. Я лічу, што толькі родзічы і некалькі самых блізкіх сяброў павінны сабрацца, каб памянуць адышоўшага блізкага чалавека. Але навошта ж гэтыя шыкоўныя балы, што робяць адзін перад другім, выпузваючыся са скуры, бо кожны хвалюецца, каб хаця яго не абгаварылі. А што рабіць тым, у каго няма грошай?

Вось новы факт. Чалавек хаваў жонку. Транспарт узяў з разліку на самых блізкіх і родных, а прыйшла палова насельніцтва мікраёна. Аўтобус бралі штурмам. Хто застаўся, абураліся: «Мала аўтобусаў наняў». А на вячэру прыйшло ў два разы болей людзей, чым чалавек разлічваў. Атрымліваецца, што нават за самую маленькую паслугу трэба плаціць нават тады, калі ў цябе гора? Паднёс вянок — паі і кармі. Праехаў у аўтобусе на могілкі — кліч на вячэру. Няўжо мы, хрысціяне, не павінны рабіць дабро бліжняму без усялякіх аплат? Мне вельмі хацелася б, каб на старонках вашай газеты выступілі служыцелі царквы. Каб паведамілі, як трэба паводзіць сябе не толькі ў святочныя, але і ў жалобныя дні.

**Святлана Іванаўна ТРАФІМОВІЧ**

## ПРОЗА ЖИЗНИ

# Из одного котла

## или о Том, почему по одним и тем же ценам покупают продукты питания бедные и богатые?

Сегодня придешь в гастроном — глаза так и разбегаются от разнообразия мясных, молочных, хлебобулочных изделий. Однако стоит взглянуть на ценники, как восторг, восхищение тут же пропадают. Да и чем восхищаться? Что ни неделя, так покупателей шокирует очередное повышение цен на продукты питания.

И как тут может угнаться пенсионер или рабочий за галопирующими ценами? Поэтому не удивительно, что эта категория людей, придя в магазин, часто покидает его с пустой сумкой.

Вместе с тем среди нас немало и тех, кто живет в достатке. Их не пугают высокие цены. Недавно был свидетелем такого случая: у прилавка отдела мясных изделий стояли две женщины — впереди прилично, помодному одетая, а за ней преклонных лет старушка-пенсионерка.

—Пожалуйста, килограмм сосисок, — бойко обратилась молодая женщина к продавцу. — Килограмм сервелата и вот эту курочку...

Потом покупательница заказывала еще кое-что из дорогих деликатесов.

—С вас 625 тысяч рублей! — предъявила счет продавец.

Старушка, наблюдая все это, не выдержав, тихо сама себе сказала:

—Надо же! Одна покупка — почти вся моя пенсия!..

Потом спросила:

—Доченька, мне бы полкило ливерной колбаски.

—Бабуля, пока нет. Привезут позже...

Старушка, опираясь на тросточку, отошла от прилавка.

Известно, что последние живут на выживание, получая по 600-800 тысяч рублей пенсии в месяц. Первые же имеют многомиллионые месячные семейные бюджеты. Однако для всех существует одна, так называемая потребительская корзина.

Сейчас среднемесячная заработная плата по республике составила около трех миллионов. А начальство различных рангов, банковские работники, не говоря о коммерсантах и предпринимателях, имеют месячный доход от 5 до 30 миллионов рублей в месяц. Говорят, считать чужие деньги — дело неблагодарное.

Однако вернемся к пенсионерам и низкооплачиваемым рабочим. Так, к примеру, в ноябре 1997 года пенсии всреднем были повышены на 18-20 % и теперь составляют от шестисот тысяч до полутора миллионов. Сравните со среднемесячной почти трехмиллионной зарплатой по республике. Разница налицо и значительная.

Однако вот что удивляет. Если, скажем, пенсия ежеквартально повышается на 18-20%, то к этому времени цены на мясные, молочные, мучно-крупяные изделия повышаются на 40-50%, а то и более. Как же за ними может угнаться пенсионер? А может было бы справедливо сначала повысить пенсии, заработки, а потом и цены. Вместе с тем напрашивается закономерный вопрос: почему богатые и бедные питаются из «одного котла»? То есть, почему руководитель, служащий, получающие в месяц десятки миллионов рублей, покупают в тех же продмагах и гастрономах продукты по тем же ценам, что и нищие пенсионеры с их нищенскими пенсиями?

Глава государства не раз высказывался об адресной поддержке малоимущих. Где же она? Правда, иногда коекого из этой категории поддерживают. К примеру, к выдаче определенных сумм на школьников, при заготовке овощей на зиму пенсионерам. Но это лишь капля в людской нищете. Однако, что делают при решении этой социальной проблемы непосредственно в городе, районе?

Вместе с повышением цен на тот же хлеб, мясные и молочные продукты, естественно, возрастает среднемесячная зарплата работников перерабатывающих предприятий. Подчеркну — не производителей сельхозпродукции, а переработчиков, плюс работников прилавка. Пенсии основной части пенсионеров остаются прежние. И котел остается один и тот же.

Впрочем, постоянно растущие цены на продукцию перерабатывающих предприятий позволяют руководителям, да и основной массе рабочих жить безбедно. Более того, иногда на этих предприятиях тратятся солидные суммы на культурно-увеселительные мероприятия. Понятно, что человек живет не хлебом единым и работой. Он имеет право на достойный и культурный досуг. Но пока многим остальным живется тяжко. Чего не скажешь о работниках мясокомбината. Они порой, организуя отдых, праздники отмечают с размахом.

Еще раз подчеркну: и отдыхать надо, и праздники отмечать стоит. Для этого они и установлены. Но опять-таки не с таким размахом, с каким отметили День работников сельского хозяйства на мясокомбинате. Организаторы торжеств пригласили на свою закрытую для всех территорию, кого бы вы думали: знаменитую группу.

Считаю, что местным руководителям, как представителям президентской вертикали, стоит, видимо, не только наблюдать, но и вмешиваться в происходящие экономические и социальные процессы. Необходимо интересоваться, анализировать, почему происходит рост цен на товары, выпускаемые на предприятиях города? Почему в связи с этим ростом цен значительно повышается средняя заработная плата руководителей и некоторых рабочих. Почему предприятия-богатеи не выделяют средства на благотворительные цели, на ту же, к примеру, поддержку малоимущих граждан города? Вот и получается: одни жируют, другие выживают за чертой бедности.

Наконец, если местные власти не в силах повлиять на решение возникающих проблем, то они, на мой взгляд, по долгу службы обязаны обратиться с обоснованными предложениями в правительство, а если надо, то и прямо к президенту. Понимаю, для них это дело рискованное и хлопотное. Считаю, если руководитель живет интересами, болью и нуждами людей, он призван не на словах, а на деле проявить повседневную заботу о них.

**Иван ЧУГУЕВ**

# Літаратурны ВЕТРАЗЬ

Ірына ВОЙТКА

## Зіме

Наталі маё сэрца снягамі.
Дай у святы і сонца, й мароз.
Каб калядні́чкі селі ў сані,
І каб добра пацёрлі свой нос.
Па сумётах вядзі Калядзіцу,
Час прыйшоў ёй
да нас завітаць.
Па славянскай
старой традыцыі
Будзем дбайна
яе сустракаць.
Эх, зіма ты, зіма — каралеўна,
Сыплеш золата — іней да зор.
Завірухай сцюдзёнай
напеўна
Замятаеш шырокі прастор.
Белы вэлюм
накінеш на плечы,
І душу растрывожыш да слёз.
Толькі гэтай зімою, бяспечны,
Падары нам ўсё добрае, лёс.

***

Першы снег беспрычынны —
На палі, на лагчыны.
Першы снег, як прыкмета
Адзіноты жанчыны.
Прыйдзе ён нечакана,
Быццам дзесьці спяшыць.
Першы снег, як прыкмета
Ачышчэння душы.
Ён пакрые зямлю,
Паляжыць і растане.
Першы снег, як прыкмета,
Што прыходзіць растанне.
І ў жыцці ўсё вярнецца
На свае на кругі.
Першы снег, то прыкмета —
За ім будзе другі.

***

Быць рабінай
хачу тонкалістай,
Каб між хвояў і елак ў бары
Яркай чырванню
гронкі агністай
Адгарэць ад пары да пары.

Мікола КАНАНОВІЧ

## Мяжа
антыпаэма

1

Недзе там, у мінулых гадах,
На ростанях, на скрыжаванні
Застаўся п'янкі
гарадскіх ліпаў пах
І юная ты ў вясеннім убранні.
Недзе тут, у палях і лугах,
Ля ракі і на возеры нашым
Гуляе на волі душы маёй птах,
Што ніколі не здрадзіць
Надзеям і марам юначым.
Недзе ўецца дарога,
Прастора з-пад колаў
ляціць у нябыт
Майго часу, што тут мне адведзены Богам —
І я забываю на ўзрост і
расхрыстаны быт,
І раблюся дзіцём,
Неразумным
свавольным гарэзам,
Што ловіць вялікую рыбу
У мёртвай рацэ.
Ды болей за ўсё, можа гэта
мне толькі і трэба,
Покуль чырвань ад слёз не гарыць на зарослай шчацэ.

Недзе там, недзе тут,
Гэта недзе —
на нашай Радзіме,
На няшчаснай, збалелай
І ўсё ж такі любай зямлі...
Пра яе ты згадаеш пасля,
На далёкай чужыне,
Куды з гавані лёсу
Плывеш на ліхім караблі.
А мне шляху няма.
Тут народжаны, тут як прыкуты
Да ўсяго, што любіў
І што кляў у адчайнай журбе.
Моцы-сілы няма,
Каб парваць
гэтай крэўнасці путы,
І спатолі няма ад знішчэння
раба у сабе.
Толькі голад, як пёс,
Назаўжды
застаецца нам верны
На Радзіме распятай
І ў вольнай краіне чужой.
Гэта голад пазнання,
Аскепкі
раструшчаных нерваў
(Не кажу пра кашэль)
Кіравалі на Захад табой.

2

Асабістыя страты —
не страты,
Калі цэлы народ —
за жабрачыя краты,
Калі сохнуць лясы,
А балоты становяцца стэпам,
Калі з дурнаты
за краты садзяць паэтаў.
У няведанні як,
Калі гэтак жыць немагчыма,
Уцякае зямляк
Ад балючага слова «Айчына».
Лажыцца касцьмі
Араты ў сваім агародзе.
Лад калгасны
«дастаў» з яго ўсё
Аж па самае годзе.
Ды, як з даўняй пары,
Зноўку кожны
Сам капае як знае
Да суседскай мяжы агарод.
А ўраджай (развучыліся?) —
Дрэнны, не вырастае.
Ці то спрадвеку няўмекам
На зямлі жыў народ?

3

Чалавек — так рэдка з вялікай,
Так часта — маленькі,
Часта — ніхто.
Памёр, адышоў
ад жыццёвай сявейкі —
Як бы не было.
Забыліся ўчора,
каб на забыўшых
Забыліся заўтра —
Так і жывём.
Дзе тая сутнасць,
Дзе тая праўда? —
Быллё!
Дзе цярпенню мяжа,
Дзе мяжа выжыванню? —
Мы зламалі даўно тонкі лёд
Над балотнаю тванню.
І балотны наш край,
Ці не стане
нам брацкай магілай,
А балоты, праз час, —
дзікім стэпам,
А потым — пустыняй?..

Ты ўцякла за мяжу,
А мяжа ў табе засталася.
Я паэму пішу
Без надзеі на нашае шчасце,
У якое мы верылі там,
Але страцілі веру.
Адабралі надзею
ў нас праз падман,
І душу — пад сякеру.
Так было ўжо не раз —
Мы не першыя
ў жорнах зярняты.
Маліць і маліцца за нас,
За праведных, за вінаватых
Не нашы нашчадкі з табой
На Дзяды яшчэ будуць,
А цяпер —
час асенняй журбой
Нашу памяць астудзіць.

1996

Уладзімір КАЧАРГА

***

Пра мяне
Прапяюць
Прамяні.
Ты мяне праміне́ш —
Праміні.
Ты рукою мяне памані,
І зімою са мной памяні
Тыя цёплыя, летнія дні.

Кацярына ШАЦІЛА

## РОДНАЯ МОВА

Як зерне са спелых каласоў,
Як кроплі асвяжаючай вады,
Ты лепшая з найлепшых моў,
Ты – маладосці карані.
З тых казак, песень і балад
Ты, як маленькая крынічка
Цячэш і не вяртаешся назад.
Ты – прыгажуня-маладзічка.
З гісторыі ты, як з зямлі,
Цягнулася расткамі ўгору.
Цябе праз вогнішчы няслі,
Цябе тапілі злыдні ў моры.
Загінуць людзі не далі,
Цябе ўзрасцілі і галубяць.
Ты – мова наша на гады –
Цябе не знішчаць, не загубяць.

Аляксандр ТОЛКАЧ,
вучань 5 класа СШ №10

## Слонім

Люблю я Слонім —
горад родны,
Дзе нарадзіўся і жыву,
Да Шчары вольнай і прыгожай
Штогод страчаць іду вясну.
Там пчолкі лётаюць
над кветкай
І прагна вусны пахі п'юць.
Якi прыгожы ён улетку!
Як птушкі весела пяюць!
Люблю
за сонечную ўсмешку,
За ночку зорную люблю.
Мой горад!
Не забуду сцежку —
Я да цябе заўжды прыйду!



Аляксей ЯКІМОВІЧ

## Квіток

*Апавяданне*



1

Рука адчыніла дзверцы шафы. У шафе ляжаў пасаг для дачкі Ларысы: на першай паліцы — ручнікі, на другой — прасціны, на трэцяй — рознакаляровыя посцілкі.

Вочы спыніліся на той паліцы, дзе ляжалі ручнікі, бо нечый таемны голас падказаў душы: «Тут грошы ляжаць. Тут іх шукай».

І сапраўды, пад ручніком пальцы неўзабаве намацалі стосік грашовых купюр. Пальцы ўздрыганулі, замерлі і сціснулі шурпатыя купюры, а потым хутка пачалі іх лічыць: адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем...

«Хопіць», — шапнулі губы, і рука выцягнула з шафы восем рублёвых паперак.

—Ад мяне грошы не схаваеш! — хрыпла вырвалася з грудзей.

2

Пецю разбудзіў праменьчык сонца, які зазірнуў праз занавеску і, дражнячыся, заскакаў па ягоным твары.

З кухні даносіліся прыглушаныя галасы. Пеця ведаў, што там ужо гаспадараць маці і сястра Ларыса. Ларыса старэйшая за Пецю. Гэтым летам яна скончыць дзевяць класаў. Ларыса ўчора дамовілася з маці, што сёння яны пойдуць на рынак, каб купіць на выпускны вечар святочнае плацце.

—Мама, купім тое блакітнае плацце, што я табе паказвала, — пачуў Пеця, як сказала Ларыса.

«І ў старым цябе пазнаюць», — паумаў ён пра сястру.

У суседнім пакоі на ложку заварочаўся бацька. Учора ён прыйшоў дамоў п'яны. Даваlokся да ложка, лёг, не распранаючыся, і адразу ж захроп.

Зараз бацька злезе з ложка, зайдзе ў кухню і стане прасіць у маці грошай на піва. Яна абзаве яго алкаголікам, а ён ёй пачне даказваць, што п'е рэдка, усяго раз у тыдзень, а іншыя мужыкі п'юць праз дзень, а то і часцей. Доўга будзе цягнуцца гэтая гаворка.

Заскрыпеў ложак.

Пеця здагадаўся, што бацька ўстаў. Цяпер ён сядзіць на ложку і моршчыць лоб, стараючыся ўспомніць учарашняе.

—Дачушка, — пачуў Пеця матчын голас, — у нашым мікрараёне, я чула, адкрылі начны клуб толькі для дзяўчат. Мужчын туды не пускаюць. «Сябрынай» яго назвалі.

«Пускаюць і мужчын, ды не ўсіх. З тоўстым кашальком у любы клуб можна зайсці!» — ледзь не крыкнуў Пеця.

—Дачушка, ты туды не хадзі, — працягвала размову маці. — Я чула, што там збіраюцца адныя распусніцы.

—Мама, калі б я і захацела туды пайсці, то не змагла б, бо за ўваход шмат грошай трэба плаціць! — абураная, усклікнула Ларыса.

Бацька, седзячы на ложку, закашляўся. Кашляў ён доўга, хрыпла, як стары.

—Наш алкаголік прачнуўся, — моцна, каб пачуў бацька, прамовіла маці.

—Мама, я схаджу да сяброўкі, — падала голас Ларыса.

—Дачушка, са мною пабудзь, пасядзі.

«Маме патрэбна падтрымка. На Ларысу ўся яе надзея. А пра мяне яна зусім не думае, лічыць, што я малы», — з гараччу адзначыў пра сябе Пеця.

Бацька чыркнуў запалкам, і ў пакой паплыў едкі цыгарэтны дымок. Пеця рукою затуліў рот. Сонечны зайчык, лашчачыся, ускочыў яму на руку, але Пеця яго не заўважыў.

Бацька, крэкчучы, злез з ложка і, пыхкаючы цыгарэтай, падаўся на кухню.

З Пецевых грудзей вырваўся стогн, але гэты стогн бацька не пачуў.

—Дай на піва, — пачуў ён.

—Не дам!

—Я ж адзін раз у тыдзень выпіваю. Іншыя праз дзень п'юць. Вось Міцька, напрыклад...

—Не прасі, бо не дам! — перапыніла бацьку маці.

Ларыса не ўступала ў гаворку. Пеця ўявіў, як яна сядзіць за кухонным сталом, сціснуўшы тоненькія пальчыкі і з-пад ілба пазіраючы на бацьку.

—Ну, дай! Галава расколваецца. Зразумей.

Маці не хацела разумець:

—Алкаголік, не дам!

—Мама, дай, але няхай ён напіша распіску, — неспадзявана заявіла Ларыса.

Пеця напружыўся, сцяўся. Яму хацелася ўскочыць, пабегчы на кухню і грукнуць па стале так, каб з кухні разбегліся ўсе: і бацька, і маці, і Ларыса.

—Якую распіску? — усклікнуў бацька.

—Звычайную, — сказала Ларыса. — Напішаш, што п'еш, што ў мамы грошы крадзеш. А ў канцы напішаш, што не бу-

# Літаратурны ВЕТРАЗЬ

**Таццяна ТРАФІМЧЫК**

***

Заваражаная табою
І зусім не хачу быць зямной.
Мне прыемна
шчаслівай парою
Называцца каханай тваёй.
Пазаві — адкажу на ўсмешку
Праменістых агністых вачэй,
Не заплачу, як нашую сцежку
Боль расстання слязой апячэ.
Толькі буду хаваць асцярожна
Тайну нашай адданай любві.
Доўга можна кахаць,
доўга можна
Незямное насіць у душы!

***

Вочы — душы ўладарства,
Сэрца — акорды любві,
Вашы пяшчотныя пальцы,
Смутак і радасць — то Вы.
Шчасце сустрэчы — і ціха,
Быццам іграе арган,
Музыка душ і ўсмешак,
Згоды, гармоніі стан.



**Клавдия ЩЕРБАКОВА**

## Новогодний ангел

Холодно. Ангел летает,
Иней на белом крыле.
В зимнюю ночь осыпает
Блестками снега. А те
Так изумрудно искрятся
В желтом свеченьи луны...
В Новом году загорятся
Праздничных елок огни.
Станем богаче мы годами,
Счастье войдет в каждый дом!
Под серебристыми сводами
Тихо спадают дождем
Нити златисто-лиловые,
Шарики и конфетти...
Гости лесные зеленые
Заворожили. Уйти?
Что вы! Мы станем смеяться,
Тонкий ловя аромат
Детства волшебного. Братцы!
Вот бы вернуть все назад:
Тайн бесконечных Галактику,
Веру в мечты, добрых фей...
Длятся.
И длим мы романтику
Чудных Рождественских дней!

**ЗЬНІЧ**

## Брату-самотніку

... калі ты і плоцццю,
і душой нездароў,
І боль твой суняцца не можа —
успомні, што ёсць
жыватворны Пакроў
Жыровіцкай Маці Божай...
... хай верад-мучыцель
працяў да нутра
І плоць твая —
скрозь абурэнне —
ля сэрца Збавіцель —
з Крыжа — пазірае
на кротасць тваю і змірэнне...
... хай Госпада Гнеў
дабівае ўшчэнт
грахоўнай гісторыі вежу —
ёсць Маці-Царква...
І Хрыстоў Тэстамент...
Бог — Бацька Жыцця
і Бязмежжа...
...Імгненне пакуты
мільгне мімаходзь...
а смерць табе —
добры таварыш...
трымайся, манах...
ты — адзін...
І Госпадзь,
Якому ўслед ты ступаеш...

**Жыровічы**

ДЭБЮТ

## «Паэзія — вастрыё ляза...»



**Сяргей ГЕРАСІМЧЫК**

Чытаючы вершы Сяргея Герасімчыка — трэба думаць. Таму не кожны радавы чытач дачытае іх да канца. Але што ў паэзію ідзе таленавіты малады аўтар — гэта бясспрэчна. Сяргей Герасімчык вучыцца ў беларуса Алеся Разанава, у рускага Барыса Пастарнака, у французаў Поля Элюара і Гіёма Апалінэра, у японца Басё... Гэта адчуваецца, калі чытаеш ягоныя вершы. На першы погляд здаецца, што ў ягоных радках замнога змрочных фарбаў, прадчування жыццёвых катастроф. Але гэта зусім не так. У вершах нашага земляка — шчырасць пачуцця, вобразнасць, людская адкрытасць і філасофія. Паэт шукае і эксперэментуе. І ўсё гэта заслугове ўвагі і радуе. Нагадаем яшчэ, што Сяргей Герасімчык нарадзіўся ў 1968 годзе ў вёсцы Ярмалоўшчына Слонімскага раёна. Скончыў Азярніцкую сярэднюю школу, працуе слесарам на прадпрыемстве «Альбярцін». Завочна вучыцца на другім курсе Белдзяржуніверсітэта на правазнаўчым аддзяленні спецфакультэта кіравання і сацыяльных тэхналогій.

Прапануем чытачам «ГС» вершы Сяргея Герасімчыка.

***

Альфа —
Два шаўковых клубка —
і Амега.
У пентаграме пустынных завулкаў
з тупіковым Зацьменнем уранку,
Абдзіраюць ХАЎРУСНІКІ Купал,
заляпіўшы крывёю лёгкасць
фіранкі.
І ўжо лепіш свой даляглял
жвірам ЖОЎТАГА СЫПУНА,
паміж пякельных Цытат,
у гатэлі пад назвай «У ВАЛУНА».
У пентаграме пустынных завулкаў
цяпер СВЕЦІЦЬ ТОЛЬКІ АМЕГА,
Праз стагоддзі сустрэнецца
Альфа,
у шкельным абліччы НАВУК
і шаўковы клубок РАЗМАТАЕ ПАВУК.
Усё бліжэй да пякельнай
ЦЫТАТЫ...

***

Паэзія — вастрыё ляза,
носім пачатак параненых
супярэчнасцей,
выпускаючы з сілкоў
ПТУШКУ
супраць плыні,
у нябачных фігурах
адбіткам хісткім УЗНІ —
МАЕЦЦА БЕЛЫ ПЯЛЁСТАК —
адзіны бальзам, што РЫЗЫ —
КУЕ —
СЛОВА!..
і іншае ПАЧАКАЕ.
(Антыпод)

***

У аколіцы адзіноцтва схаваўшы
сваё,
пакладзены
(дадзены) захоп
ПУСТАТЫ...
цішынёю расстраляўшы
ПАДСТА —
ВЫ ў пастцы адказы
шукаеце,
зганьбіўшы ценю шкарлупіны
у нязмерным смутку...
АЛЕ ЗА —
ПЭЦКАЦЬ карацей,
цераз
НІШТО.

дзеш красці.

—Краў і больш не буду красці? — голас у бацькі задрыжаў.

—Ларыса, можа, не трэба? — глуха прамовіла маці.

—Трэба! — цвёрда прагаварыла Ларыса.

Пеця праглынуў даўкі камяк, які засеў у горле, і дастаў з-пад падушкі квіток. Зараз ён устане, гэты квіток прынясе на кухню і пакажа бацьку, маці, Ларысе. Рана ці позна, а ўсё роўна прыйдзецца паказаць.

—Дачушка, ты патрабуеш ад мяне распіску? — хрыпла засмяяўся бацька.

—Хочаш атрымаць на піва — пішы.

—Ну й напішу, калі вам так прыспічыла, — весялей засмяяўся бацька.

—Сам напішаш ці мне прадыктаваць? — запыталася Ларыса.

—Сам напішу.

Гарэзлівы праменьчык сонца заскакаў на Пецевай руцэ, у якой быў квіток. Пецева рука ўпала на ложак. «Ларыса палохае бацьку. На кухні адбываецца звычайная камедыя. А на піва бацька не атрымае, не. Біцца ж да Ларысы ён не палезе. Дый маці за Ларысу заступіцца, калі што. Крыху пакрычаць яны — і разбягуцца. І зноў да наступнай суботы стане спакойна ў хаце», — падумаў Пеця і прашаптаў:

—Няхай будзе так. Няхай.

—Напісаў? — Ларысін голас у другі раз прымусіў Пецю напружыцца, сцяцца.

—Напісаў. Бяры. А грошы дзе?

—Мама, прынясі яму на піва.

—Алкаголік! — крыкнула маці і, як зразумеў Пеця, накіравалася ў залу, дзе стаяла шафа.

—Ларыса, ён грошы ў мяне ўкраў! Я табе на плаціце сабрала, а ён украў! — з залы закрычала маці.

—Мама, я ў міліцыю пазваню! Няхай прыедуць і забяруць яго! — гукнула Ларыса.

—Звані. Мяне не забяруць, — гучна зарагатаў бацька.

Пеця ўскочыў з ложка, губамі і носам упёрся ў шыбу акна і затуліў вушы.

3

Міліцыя прыехала хутка, хвілін праз дзесяць. З легкавушкі вылез маладзенькі рыжы лейтэнант. «Я яго, здаецца, нядаўна з Ларысай бачыў», — тахнула Пецю ў галаву, і ён адняў рукі ад вушэй, каб зноў не толькі бачыць, але і чуць.

Міліцыянер задраў галаву, вачыма прабег па вокнах іхняй кватэры, убачыўшы Пецю, скрывіўся і накіраваўся ў пад'езд, трымаючы пад пахай тонкую скураную папку.

Зазвінеў званок. Пецю здалося, што затрашчаў аўтамат і гарачымі кулямі прашыў ягоныя грудзі. Ён чакаў, што кроў вось-вось пырсне з грудзей.

Дзверы адчыніла Ларыса.

—Заходзьце, — ветліва запрасіла яна сяржанціка.

—Вы выклікалі міліцыю? — пацікавіўся лейтэнант.

—Забярыце яго. Ні мне, ні маці жыць не дае.

Пеця здагадаўся, што і бацька выйшаў у калідор, каб сустрэць міліцыянера. «Ну чаго ж ты сам лезеш у нерат? З цябе ж пасля ўчарашняга прэ'як з віннай бочкі!» — падумаў ён пра бацьку.

—Вы не маеце права мяне з маёй кватэры забіраць! Я ў кватэры не дэбашыру! — расхрабрыўся бацька.

—Ён напісаў распіску, — з'едліва сказала Ларыса. — Прачытайце, таварыш лейтэнант.

Стала ціха. Пеця здагадаўся, што рыжы міліцыянер чытае бацькаву распіску. Занесці квіток і паказаць яму? Але што гэта дасць? Бацькава песенька ўсё роўна спетая. Што ж зрабіць? Вось каб стукнуць кулакамі па шыбе, каб шкло зазвінела, каб людзі выскачылі з пад'езда! А потым «Ратуйце!» на ўвесь голас закрычаць.

Пеця, напэўна, так і зрабіў бы. Ён стукнуў бы кулаком па шыбе, закрычаў, збіраючы людзей, але яму ў вочы засвяціў сонечны промень, прымусіўшы зажмурыцца і адысціся ад акна.

—Грамадзянін, я прачытаў вашу распіску. Паедзеце з намі. Збірайцеся, — загадаў рыжы лейтэнант.

—Не паеду! Не маеце права! — цвярозым голасам крыкнуў бацька.

—Наручнікі адзенем, калі будзеце супраціўляцца, — папярэдзіў бацьку міліцыянер.

—Я пайду, але вы за гэта адкажаце!

Бразнулі дзверы.

—Відаць, ужо вядуць! — з чайгосьці адчыненага акна данёсся тонкі жаночы галасок.

Пеця накіраваўся на кухню.

Маці сядзела на табурэтцы каля акна, а Ларыса стаяла каля газавай пліты. Увесь яе прыгожанькі тварык быў пабіты на чырвоныя плямы.

—Сынок, яго не пасадзяць. Толькі напалохаюць.

—Мама, пасадзяць. Рыжанькі лейтэнант ходзіць у «Сябрыну». Яго туды бясплатна прапускаюць.

—Ну і што? — паглядзела на брата Ларыса. Пеця ўбачыў у яе вачах нянавісць.

—Мама, вось квіток, — Пеця расціснуў кулак і працягнуў маці той квіток, які ўсю ноч хаваў пад сваёй падушкай.

Ларыса кінулася да Пеці.

—Аддай!

Пеця плячом адштурхнуў сястру.

—Мама, гэты квіток — білет у «Сябрыну». Ларыса сёння ў дзве гадзіны ночы дамоў вярнулася, а я не спаў. Квіток я забраў з яе сумкі.

Маці зяўнула: ей не хапала паветра.

—Ларыса, так гэта ты ўкрала грошы?

—Мама, яна даўно ходзіць у «Сябрыну».

—Дачушка, што ж ты нарабіла? Чаму ты так? — усклікнула маці.

—Мама, цяпер жыццё такое, — ухмыльнулася Ларыса і звярнулася да Пеці: —За бацьку заступаешся! А чаму ж ты не заступіўся за яго, калі міліцыянер быў у хаце? Духу не хапіла, спалохаўся?

—Шлюха! — крыкнуў Пеця і плюнуў Ларысе ў твар.

4

Пеця ляжаў на ложку і моўчкі глядзеў на белую столь. Сонечны зайчык бегаў па ім, лашчыў яго.

Ларыса, стоячы каля шафы, кусала доўгія наманікюраныя пазногці, а маці сядзела каля акна. Яе плечы калаціліся ад бязгучнага плачу.

**Старонкі падрыхтаваў Сяргей ЧЫГРЫН**

